


**Рэгіянальная газета**

9 жніўня 2013 года
№ 32 (954)

http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".




Што варта пакаштаваць за мяжой?

3-я старонка




Пляцовак для сабак няма, а правілы ёсць

5-я старонка


- **З'явіцца сонечная электрастанцыя** / 2-я старонка
- **Падлетка судзілі за тое, што ўкраў шакалад** / 4-я старонка
- **Успаміны валожынца Мікалая Махнача. Заканчэнне** / 20-я старонка
- **Трэст, які будаваў Беларусь** / 21-я старонка


**навіны рэгіёна**

## Прызначаны новы кіраўнік райсельгасхарчу

**МЯДЗЕЛ.** Першым намеснікам старшыні Мядзельскага райвыканкама – начальнікам упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання 1 жніўня прызначаны **Дзяніс Калясень**. Нарадзіўся ён у 1983 годзе на Барысаўшчыне. Атрымаў дзве вышэйшыя адукацыі: закончыў Беларускі дзяржаўны аграрны тэхнічны ўніверсітэт і Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. Да апошняга часу кіраваў таварыствам "Рубяжэвічы" ў Стаўбцоўскім раёне.

## Выстава мастака з Вільні

**ВІЛЕЙКА.** У выставачнай зале імя Сілівановіча краязнаўчага музея 10 жніўня а семнаццатай гадзіне запланавана адкрыццё выставы карцін **Юрыя Герасімовіча**. Жыве мастак у Вільні, але карані яго з Вілейшчыны, Юры часта бывае тут. На выставе мастак прадставіць нацюрморты, краявіды. У наступным нумары "РГ" чытайце інтэрв'ю з творцам.

## Выстава ў форме вечарынкі

**МАЛАДЗЕЧНА.** 15 жніўня ў 16 гадзін у Радашкавіцкім цэнтры адпачынку адбудзецца літаратурная выстава дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы. Прысвечаная яна 100-годдзю пастаноўкі п'есы "Паўлінка" Янкі Купалы. Як адзначыла загадчыца аддзела культуры дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы **Вольга Пархімовіч**, выставу праводзяць 15 жніўня, бо 100 гадоў таму ў гэты дзень "Паўлінку" паставілі ў Радашкавічах. Тады на прэм'еры быў сам аўтар. Выстава пройдзе ў форме беларускай вечарынкі. Будуць песні, танцы і жывая музыка.

**Аддзел інфармацыі.**



# Варварская высечка лесу



Фота забяспечана Алесем РАТКЕВІЧАМ

Ляснога багацця высякаецца і вывозіцца вельмі шмат.

**ВІЛЕЙКА. Даўно збіраўся напісаць, выказаць сваю думку пра набалелае, але ўвесь час адкладваў, бо жыву ў спадзяванні, што штосьці, магчыма, зменіцца да лепшага.**

Гаворку хачу пачаць пра, як на мой погляд, бязглуздае знішчэнне лесу, менавіта знішчэнне, а не запланаванае і размеркаванае яго высяканне. Возьмем для прыкладу лясны квадрат, прыкладна 10 на 5 кіламетраў, які размясціўся паміж вёскамі Малявічы-Сакалоўка-Новая Гута-мемарыялам "Боркі".

Дык вось, калі высечы па перыметры гэтага квадрата нешырокую паласу лесу, пакінутую лесапрамыслоўцамі хутчэй за ўсё для маскіроўкі сваёй "дзейнасці", то з Сакалоўкі Малявічы будуць бачныя як на далоні, а жыхары Новай Гуты ад сваіх хат змаглі б нават без узброенага вока назіраць, як праз пагост у Борках лесавозы вывозяць апошні лес. Бо ў сярэдзіне гэтага квадрата – дзялянка на дзялянцы ды дзялянкай паганяе.

Высечку такую спіхваюць больш на нейкага жучка, які быццам бы завёўся ў хвоях. А чаму тады ляжаць вялізныя штабялі дрэва ў сотні, тысячы кубаметраў?! І апошнім часам пераважна з бярозы, асіны і нават вольхі. Мне здаецца, што гэта не жучок падштурхоўвае да такой "санітарнай" высечкі лесу, а прага нажывы людзей, у якіх толькі адна мэта – грошы, грошы і грошы.

Ці існуе ў нашай краіне хоць якая-небудзь распрацаваная тэхналогія па лесанарыхтоўцы? Гледзячы на варварскія адносіны да прыроды гэтых "прамыслоўцаў", думаецца, што не. А калі ёсць нешта падобнае, то чаму тады кантралюючыя арганізацыі не заўважаюць і не бачаць у гэтым праяву злачынства. Дзе наша ахова прыродных рэсурсаў? Кантралююць, мабыць, толькі бабак з лісічкамі, чарніцамі, брусніцамі, назваўшы дзейнасць іх варварскай!

Чаму ж гэтыя кантралюючыя арганізацыі заплюшчваюць вочы на тое, як магутная сучасная тэхніка разам з лесам знішчае напавал усе ягаднікі і грыбныя мясціны? Дарэчы, грыбы цяпер можна збіраць пераважна на ўскрайку лесу і на запушчаных і кінутых сельскай гаспадаркай землях, якія зараслі драбналессем. У такіх мясцінах добра растуць чашчавікі і падасінавікі, трапляюцца і лісічкі. Але гэта так, як падказка грыбнікам.

А цяпер прадоўжым пра галоўнае, пра "гаспадароў" лесу, якія пасля сябе пакідаюць на лясных дарогах не проста каляіны, а глыбачэзныя траншэі, як пасля танкавых манеўраў. Ушчэнт разбіваюць дарогі з гравійным пакрыццём мясцовага значэння, у тым ліку і вясковыя вуліцы.

Ды што тут можна казаць пра звычайныя дарогі, калі без малога сораму і сумлення цягаюць лес прама праз мемарыял "Боркі", на якім пахаваныя ахвяры мінулай вайны. Ездзяць яны прама праз падмуркі былых хат, спаленых фашыстамі. Як ім не даходзіць, што гэта яны не падмуркі рэжуць коламі, а душы нявінна загінулых людзей! І нават не задумваюцца, што здзяйсняюць не толькі кашчунства і вандалізм, а нешта большае, за што ім усё адно прыйдзецца разлічвацца.

Які ўжо год запар жыхары Новай Гуты шукаюць паратунку ад саракатонных лесавозаў, якія цэлымі днямі вывозяць дрэва з дзялянак менавіта па іх вузенькай вясковай вуліцы, на якой двум легкавікам размінуцца немагчыма. А тут гэтыя монстры сваімі здаравеннымі коламі працініулі гравійнае пакрыццё аж да польскай брукаванкі.

**Алесь РАТКЕВІЧ.**

**Працяг на 2-й старонцы.**

НАБАЛЕЛА

# Варварская высечка лесу

*Заканчэнне. Пачатак на 1-й старонцы.*

**ВІЛЕЙКА. Даўно збіраўся напісаць, выказаць сваю думку пра набалелае, але ўвесь час адкладваў, бо жыву ў спадзяванні, што штосьці, магчыма, зменіцца да лепшага. Ажно не, усё застаецца на тым жа ўзроўні, нават горш.**

Дык вось, не атрымаўшы станоўчага адказу на зварот у мясцовы выканкам, вяскоўцы, сабраўшыся усе разам у сераду, 31 ліпеня, на параду, што рабіць далей, перакрылі пад "гарачую" руку шлях лесавозу, які якраз у гэты момант рухаўся, нагружаны дрэвам, па вясковай вуліцы. У справу ўмяшалася вілейская міліцыя, кімсьці выкліканая.

Пытанне разглядалася камісійна і ўсебакова. У склад камісіі ўвайшлі прадстаўнікі грамадства, міліцыя, мясцовая ўлада і, канешне ж, лесанарыхтоўшчыкі. Акрамя пратакольных спраў былі зроблены і фотаздымкі мясцовасці.

Міліцыя да ўзнікшага канфлікту аднеслася на поўным сур'ёзе і з вялікім паразуменнем да людзей, за што жыхары Новай Гуты засталіся задаволеныя і ўдзячныя яе прадстаўнікам. Міліцыя сваю справу зрабіла, а вось якія высновы і рашэнне прыме выканаўчая ўлада, невядома?

Будзем спадзявацца на тое, што ўрэшце знойдзецца нейкая дзяржаўная сіла, якая здолее затрымаць гэты працэс знішчэння лесу.

**Алесь РАТКЕВІЧ.**



Фота зафіксечана Алесям РАТКЕВІЧАМ

**Па пабудаванай дарозе,якую разбіваюць лесавозы, у Боркі да адрамантаванага помніка пастаянна едуць людзі з кветкамі,пакуль ёсць магчымасць па чым ехаць.**

ЭКАЛОГІЯ

## З'явіцца сонечная электрастанцыя

**СМАРГОНЬ. Першую ў Беларусі магутную сонечную электрастанцыю плануюць пабудаваць у Смаргоні, паведамілі ў камітэце эканомікі Гродзенскага аблвыканкама.**

Інвестыцыйны праект "Будаўніцтва і тэхнічнае абслугоўванне электрастанцый, якія працуюць з выкарыстаннем аднаўленчых крыніц энергіі (сонца)" на тэрыторыі Смаргонскага раёна мае намер рэалізаваць ТАА "Экалагічная энергія", зарэгістраванае ў ліпені ў Смаргонскім райвыканкаме.

Інвестыцыйную прапанову ўхвалў Гродзенскі аблвыканкам.

Прадпрыемства хоча пабудаваць электрастанцыю агульнай сумарнай магутнасцю не менш як 17 МВт. Для размяшчэння вялікай колькасці сонечных батарэй аддаюць пустку на 36,8 га ў прамысловай зоне на ўсходняй ускраіне Смаргоні.

Інвестар плануе ўкласці ў праект каля 375 мільярдаў рублёў. Будзе створана да 50 новых працоўных месцаў.

Завяршыць першую чаргу будаўніцтва і забяспечыць атрыманне 5 МВт энергіі плануецца да чэрвеня 2015 года. Другая чарга (яшчэ 6 МВт) мае быць уведзеная ў эксплуатацыю ў снежні 2016 года. Размясціць батарэі магутнасцю яшчэ ў 6 МВт і завяршыць праект плануецца да ліпеня 2018 года.

**Паводле БелТА.**

МОЛАДЗЬ

## Прайшоў Міжнародны моладзевы абмен

**МАЛАДЗЕЧНА. З 26 ліпеня па 4 жніўня ў Маладзечне праходзіў міжнародны моладзевы абмен Youthinaction ("Моладзь у дзеянні").**

Музычны каледж імя Агінскага сабраў каля 50 удзельнікаў 18-25 гадоў з Польшчы, Эстоніі, Люксембурга, Азербайджана, Малдовы і Беларусі.

Як расказаў дырэктар музычнага каледжа імя Агінскага **Рыгор Сарока,** асноўным пытаннем перад удзельнікамі паўсталі праблемы экалогіі і кліматычныя змены.

– Мы хацелі паказаць нашу краіну, бо многія замежнікі не ведаюць, дзе яна знаходзіцца, што сабой уяўляе, чуюць негатыўныя водгукі пра яе, – кажа спадар Рыгор. – На самой справе ўсё не так, і нашы госці гэта заўважылі. Падобнае мерапрыемства мы хочам правесці ў красавіку наступнага года, бліжэй да майскіх святаў, каб госці паглядзелі на святочную краіну і на асаблівасці святкавання. Запросім каля 40 чалавек. А пасля яшчэ ў ліпені, калі будзе вольны інтэрнат. Тады можна будзе запрасіць і больш гасцей. Прыехаць могуць не толькі з тых краін, з якіх былі ў нас сёлета, але і з іншых.

Таксама арганізатары правялі агляндавую экскурсію. Пачалася яна з каледжа. Гасцям расказалі пра гісторыю яго заснавання.

Дарэчы, іх вельмі здзівіла, што ў каледжы раней знаходзілася НКВД. Паказалі маладым і горад: касцёл святога Іосіфа, цэрквы, помнік Герою Савецкага Саюза Маркаву, Цэнтральную плошчу. Да шталага-342 не дайшлі, але яго гісторыю расказалі таксама.

### Азербайджанцаў здзівіла прагулка пасля васьмі вечара

Госці гулялі па горадзе і нават зазірнулі на дыскатэку. Азербайджанцаў, напрыклад, вельмі здзівіла, што ў нас пасля васьмі гадзін вечара можна спакойна хадзіць па вуліцах. А ў іх гэта, па словах гасцей, забаронена.

Яшчэ замежнікаў пазнаёмілі з нацыянальнай кухняй, нават паказалі, як гатуюць дранікі, халаднік ды мачанку. У цэнтры стала пачэснае месца займала бульба. Прапанавалі пачаставацца і алкагольнымі напоямі: гарэлкай, самагонкай і медавухай.

### У Беларусь хочацца вярнуцца

За гэты час юнакі і дзяўчаты маглі папрактыкавацца ў англійскай мове ды вывучыць некаторыя фразы з іншых замежных моў.

Намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце **Дзмітры Арціёменак** заўважыў:

– Ад нас не хацелі з'язджаць, так спадабалася! Усе адзінаглосна казалі, што Беларусь – краіна, у якую хочацца вярнуцца.

**Галіна СІНІЦА.**

СВЯТЫ

## Прапануюць выбраць свята

**ВІЛЕЙКА. Чацверты год у канцы жніўня у райцэнтры праводзіцца свята ў Віллянін дзень.**

Сёлета ўпершыню віляйчанам прапануецца выбраць, якое свята праводзіць 30 жніўня, расказала намеснік дырэктара Палаца культуры **Вольга Шляпо.**

З дапамогай інтэрнэтгаласаванняў можна выбраць з трох святаў: з хатнімі гадаванцамі, талентаў і традыцый "Бабулі і ўнукі", Нептуна. Таксама мажліва прапанаваць сваю ідэю свята.

Пакуль віляйчане не актыўна прапаноўвалі свае варыянты: паступіла толькі ідэя ўвасобіць у свяце паданне аб стварэнні Вілейкі. Прапановы можна яшчэ прысылаць да 10 жніўня на электронны адрас: vilideologia@mail.ru альбо перадаць па тэлефонах **(8-01771) 5-43-72, 5-50-39, 5-44-90.**

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

СТРАВЫ

# Што варта пакаштаваць за мяжой?

**У час летняга адпачынку многія разважаюць над тым, дзе ж яго правесці: падарожнічаць у Беларусі ці выехаць за мяжу?**

Калі мы абіраем другі варыянт, то і не задумваемся, што ад выбару краіны, па якой давядзецца вандраваць, залежыць і тое, што мы будзем есці.

Разам з жыхарамі суседніх краін спрабуем разабрацца, што ў нацыянальнай кухні варта пакаштаваць турыстам.



Фота Аляксандры ПАРАХНІ.

Есці грыбны суп з хлебнага гаршчочка – абавязковы рытуал для многіх, хто ўпершыню прыехаў у Літву.

## Літва: суп наліваюць у... хлеб

Страва даўно стала звыклай не толькі для Літвы, але і для заходнеславянскіх краін. Свае варыянты супу ў хлебным гаршчочку вам прапануюць і ў Польшчы, і ў Чэхіі.

Для таго, каб прыгатаваць страву, робяць спецыяльны круглы хлеб з тоўстай скарынкай. Пасля зразаюць верх каравая і асцярожна дастаюць хлебны мякіш, пакідаючы сценкі таўшчынёй у адзін-два сантыметры.

Для такога гаршчочка падыходзіць не кожны суп: надта рэдкія могуць хутка прамачыць хлебную скарынку. Лепш за ўсё ў гаршчочку падаваць супы-пюрэ. У Літве асабліва папулярнасцю карыстаецца грыбны суп.

– Такую страву часцей можна пабачыць у кавярнях, якія спецыялізуюцца на народнай кухні, – заўважае вілянчук **Томас Тамілінас**. – На маю думку, такі суп не мае ніякага дачынення да народа. Уявіце, як маглі нашы продкі зрабіць дзірку ў хлебе, а пасля заліць туды суп? Яны б ніколі не здзекаваліся так з хлеба, які ў іх быў на вагу золата. Затое цяпер страва вельмі прыцягвае турыстаў і дае прыбытак кавярням. Мы самі ядзім такі суп вельмі рэдка.

Як правільна з'есці суп у хлебе – таксама асобная навука. Некаторыя проста ядуць суп, а гаршчочак пакідаюць. Іншыя паступова адломваюць краі гаршчочка і ядуць яго разам з супам. А ёсць і аматнікі паскрэбці лыжкай хлебны мякіш са сценак, дадаючы яго да супу. Але рабіць гэта трэба асцярожна, каб не атрымаць дзірку ў "посудзе".

## Польшча: традыцыйныя бігас і журэк

Часцей за ўсё менавіта гэтыя дзве стравы прапануюць палякі замежным турыстам.

Пры гэтым падкрэсліваюць: для беларуса яны могуць быць зусім не новымі, бо нашы кухні сапраўды вельмі падобныя. Свае варыянты тых жа страў могуць быць і ў беларускай кухні, толькі мець іншую назву.

Некаторыя стравы маюць сваю гісторыю. Згадкі пра іх можна знайсці нават у літаратуры. Знакаміты бігас – страва са свежай і кіслай капусты з мясам – апісвае Адам Міцкевіч у паэме "Пан Тадэвуш":

У кацельцах тушылі бігос. Але выказаць трудна/ дзіўны яго колер і смак, і як пахне ён цудна;/ бо слоў толькі гукі пачуе і рыфмаў зьмяняньне,/ а іхняга зьместу мяшчанскі трыбух не уцяме…

Цаніць каб належна літоўскія песьні і стравы,/ Бярэцца да гэтага сечана кісла капуста,/ сама, як той кажа, у рот яна лезе, як клуста;/ закрыта ў катле, яна ў вогкім нутры абымае/ найлепшага мяса кускі да сябе прытуляе;/ а пражыцца так, каб агонь зь яе выціснуў клёку/ найболей, аж пырсьнецца варам з начыньня ад соку/ і ўкола прасыце сваім араматам.

Бігос во гатовы.

*(Пераклад Браніслава Тарашкевіча).*

Сапраўды народным можна назваць і суп журэк.

– Журэк мы часта ядзім у паўсядзённым жыцці, – кажа жыхар Кракава **Лукаш Міхалоўскі**. – Я сам яго гатую вельмі рэдка, бо рэцэпт для мяне складаны. А вось знайсці яго ў звычайнай сталоўцы нескладана.

Назва стравы паходзіць ад слова "жур" – адмысловай закваскі на аснове аржаной мукі. Самастойна прыгатаваць яе і праўда складана, але ў Польшчы закваска прадаецца ў бутэльках рознага памеру.

Абавязковы складнік супу – белыя кілбаскі. У ідэале іх таксама трэба рабіць самастойна, але часцей іх набываюць у краме.

Ужо перад падачай на стол у суп дадаюць варанае яйка і смятану.

## Украінскі боршч – "самы правільны"

Вядома, заехаўшы ў суседнюю Украіну, немагчыма знайсці рэстаран, кавярню ці сталовую, у якіх бы не прапаноўвалі боршч.

– Мы вельмі часта гатуем яго самі, – гаворыць украінка **Ганна Анішчанка** з Мікалаева. – На смак ён паўсюль розны. Нават калі набор прадуктаў аднолькавы, боршч усё роўна ў кожнай гаспадыні атрымаецца свой.

Часта да баршча дадаюць галушкі – невялікія кавалачкі цеста, а таксама – часночны соус. Галушкі падаюць і асобна, але з баршчом яны добра дапаўняюць адно аднаго.

– Боршч лічаць сваёй нацыянальнай стравай не толькі ўкраінцы, – дадае Ганна. – Неяк у Варшаве давялося яго пакаштаваць. Памятаю, як я здзівілася: замест наварыстага баршчу мне прынеслі чырвоненькую вадзічку з трыма пельменямі! Да таго ж палякі гатуюць боршч на закваскі, і гэта адразу адчуваецца на смак. Калі хочаце пакаштаваць сапраўдны боршч – прыязджайце да нас на Украіну!

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

### Боршч па-ўкраінску

Сваім рэцэптам баршчу падзялілася з "РГ" украінка **Ганна Анішчанка.**

Вам спатрэбіцца:

600 грамаў мяса (лепей свіныя рэбры)
2-3 бульбіны
1 бурак
2 цыбуліны
2 морквіны
2 сталовых лыжкі таматнай пасты
2-3 памідоры
1 перац
Капуста і зеляніна
Кавалачак сала і зубок часнаку

Спачатку трэба зварыць мясны булён. Да гатовага булёну дадаць бульбу, нарэзаную кубікамі.

Бурак нарэзаць саломкай і абсмажыць на патэльні. Пасля на патэльню дадаць нарэзаныя моркву і цыбулю. Гародніну абсмажыць да залацістага колеру цыбулі.

З памідораў трэба зняць лупіну і надзёрці на тарцы. Атрыманую масу дадаць да таматнай пасты і нарэзанага перцу, пасля ўліць адну шклянку булёну. Тое, што атрымалася, трэба патушыць на патэльні каля дзесяці хвілін.

Калі ў булёне ўжо зварыцца бульба, трэба дадаць у каструлю гародніну, таматную масу, а таксама нашаткаваную капусту і зеляніну. Не забудзьцеся пасаліць боршч на свой густ. Чым больш зеляніны – тым лепей. Пракіпяціце боршч яшчэ хвілін пяць.

Галоўны сакрэт: перад самым выключэннем газу трэба дадаць у боршч кавалачак сала і расцёрты зубок часнаку.

Смачна есці!

| Курсы валют НБ РБ | 1.08 | 8.08 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 8 880,00 | **8 900,00** |
| Еўра | 11 780,00 | **11 820,00** |
| Злоты | 2 782,52 | **2 805,36** |
| Літ | 3 419,07 | **3 424,46** |
| Расійскі рубель | 269,00 | **270,00** |
| Грыўня | 1 094,00 | **1 095,52** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 8860/8920 | **8870/8920** |
| Еўра | 11750/11850 | **11800/11880** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 31.07 | 7.08 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 120900 | **128200** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 45050 | **45000** |
| **Ялавічына, кумпяк**, 1 кг | 84000 | **84000** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 26300 | **25900** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 24000 | **24000** |
| **Селядзец**, 1 кг | 28000 | **28000** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 85000 | **85000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 9900 | **9950** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 10100 | **10100** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 9000 | **9000** |
| **Алей** | 16200 | **15900** |
| **Маянэз**, 200 г | 5200 | **5200** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 7800 | **7800** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 30000 | **30000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 9700 | **9800** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 7300 | **8000** |
| **Капуста**, 1 кг | 4000 | **4500** |
| **Морква**, 1 кг | 8000 | **7000** |
| **Буракі**, 1 кг | 7000 | **6500** |
| **Лімоны**, 1 кг | 20000 | **20000** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 15000 | **14500** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 23000 | **19000** |
| **Памідоры**, 1 кг | 8500 | **7500** |
| **Агуркі**, 1 кг | 5500 | **5500** |
| **Перац**, 1 кг | 11500 | **10000** |
| **Вінаград**, 1 кг | 23000 | **21000** |
| **Бананы**, 1 кг | 12500 | **12000** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 12000 | **10000** |
| **Грушы**, 1 кг | 20000 | **22000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 12000 | **12000** |
| **Масла**, 1 кг | 60000 | **60000** |
| **Тварог**, 1 кг | 35000 | **35000** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 15000 | **15000** |
| **Бульба маладая**, 1 кг | 3000 | **5000** |
| **Мёд**, 1 кг | 50000 | **50000** |

■ ПРАКУРАТУРА, СУД

# Падлетка судзілі за тое, што ўкраў шакалад



Фота google.ru.

Хлопец не першы раз краў шакалад.

**ВІЛЕЙКА. 30 красавіка 16-гадовы Сяргей падабраў ключ да чужога аўтамабіля і ўкраў сумку разам з 15 пліткамі шакаладу.**

Разам з шакаладам ён прыхапіў мабільны тэлефон і шэсць слоікаў шакаладнай пасты.

На наступны дзень частку шакаладак і пасты прадаў, а частку з'еў сам. Тры слоікі шакаладнай пасты, якая засталася, хлопец схаваў пад мостам у вёсцы Асіпавічы.

Але на гэтым Сяргей не спыніўся.

Другога мая каля дванаццаці гадзін ночы хлопец праходзіў міма неахоўнай стаянкі ў Вілейцы і заўважыў, што дзверы адной з машын не зачыненыя. Юнак сеў у яе і хацеў украсці магнітолу, але нечакана на стаянку заехала іншая машына. З яе выйшаў мужчына і затрымаў хлопца. Мужчына аказаўся сынам гаспадара мышыны.

Бацькі Сяргея кампенсавалі ўсю шкоду за скрадзены шакалад.

Летась хлопца затрымлівалі за тое, што ён украў шакаладку. Але тады ўсё абышлося папярэджаннем.

Цяпер Сяргея прыгаварылі да года пазбаўлення волі. Але яму далі год адтэрміноўкі. Гэты час ён будзе знаходзіцца пад наглядам. Яму неабходна перыядычна з'яўляцца на рэгістрацыю ў міліцыю і знаходзіцца дома ад 22.00 да шасці раніцы.

Праз год яго справа будзе перагледжаная. Магчыма, калі гэты час яго паводзіны будуць узорныя, за кратамі ён не апынецца. Калі ж ён зноў учыніць злачынства, то хутчэй за ўсё яго пазбавяць волі.

**Дар'я ХАДАРОВІЧ,**
**старшы памочнік пракурора Вілейскага раёна.**

■ МЯЖА

## На мяжы затрымалі выхадцаў з Каўказа

**СМАРГОНЬ. 31 ліпеня дзяжурнаму па памежнай заставе "Лынтупы" Пастаўскага раёна ад мясцовага жыхара паступіла інфармацыя аб тым, што на аўтадарозе Кавалі – Пляяка заўважаныя тры невядомыя чалавекі.**

Памежнікі іх затрымалі. Парушальнікі былі без дакументаў на права ўезду, часовага знаходжання і перамяшчэння ў памежнай зоне.

Са слоў парушальнікаў, яны адпачывалі на возеры "Нарач", далей ішлі адпачываць на возера "Белае" і заблудзілі.

Асоб, якія маюць дачыненне да супрацьпраўнай дзейнасці, не выяўлена.

Гэтыя грамадзяне афармленыя як парушальнікі пагранічнага заканадаўства. Затрыманыя да 72-х гадзін і знаходзяцца ў ізалятары часовага ўтрымання Смаргонскай памежнай групы для далейшага разгляду.

**Аляксандр КОЛАБАЎ,**
**памочнік начальніка Смаргонскай пагранічнай групы па працы са сродкамі масавай інфармацыі.**

■ ВЫШУК

## Дапамажыце адшукаць падазраванага



Фота забяспечана Маладзечанскім РАУС.

Так выглядае мужчына, які падазраецца ў махлярстве.

**МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечанскі РАУС шукае чалавека, які падазраецца ў махлярстве.**

**Яго прыкметы:** на выгляд 30–35 гадоў, рост сярэдні, моцнага целаскладу, кароткая стрыжка з залысінамі на галаве, валасы цёмныя.

Быў апрануты ў сінюю майку, шорты цёмнага колеру.

Пераканаўча просім усіх, хто што-небудзь ведае пра месца знаходжання гэтага чалавека, паведаміць у Маладзечанскі РАУС.

Званіце па тэлефонах **(8029)709-21-75** ці **102**.

**Аддзел інфармацыі.**



■ ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Прычэп сутыкнуўся з КАМАЗам

**МАЛАДЗЕЧНА. У суботу, 3 жніўня, каля вёскі Літва адбылася аварыя.**

– Кіроўца аўтамабіля МАЗ з прычэпам ехаў па аўтатрасе Маладзечна – Валожын, – кажа дзяржаўтаінспектар **Сяргей Бартош**. – Дарога пачала закругляцца направа, і 37-гадовы мужчына пачаў прытарможваць. Ён не ўлічыў тое, што ішоў дождж, і прычэп вынесла на сустрэчную паласу.

Адбылося сутыкненне з КАМАЗам, за рулём якога сядзеў 54-гадовы жыхар Клецка.

КАМАЗ з'ехаў у кювет і перакуліўся. Кіроўцу шпіталізавалі ў Маладзечанскую ЦРБ з закрытым пераломам левай шчыкалаткі, разрывам звязак і шматлікімі ўдарамі.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

## Хлопец збіў чалавека

**МАЛАДЗЕЧНА. Здарэнне адбылося 3 ліпеня каля адзінаццаці гадзін вечара.**

– 19-гадовы хлопец вырашыў пакатацца па горадзе, сеў за руль не сваёй машыны і паехаў, – кажа дзяржаўтаінспектар **Сяргей Бартош**. – Па Вялікім Гасцінцы ў напрамку Мінска на пешаходным пераходзе, калі святлафор працаваў у мігаючым жоўтым рэжыме, малады кіроўца наехаў на 42-гадовага мужчыну. І уцёк з месца злачынства.

Калі супрацоўнікі ДАІ яго затрымалі, то высветлілася, што ён яшчэ не мае і правоў кіравання аўтамабілем.

Мужчына з-за аварыі атрымаў закрытыя пераломы абедзвюх шчыкалатак і разрыў звязак.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

■ СЛУЖБА 101

## У хлеў ударыла маланка

**ВІЛЕЙКА. А шостай гадзіне раніцы ў вёсцы Любань жанчына выйшла на двор, паглядзела, што ідзе дождж і грыміць гром.**

Зразумела, што праца на агародзе адкладваецца, і пайшла далей спаць. Праз некалькі гадзін гаспадыню будзіць і кажуць, што ў яе згарэў хлеў.

Суседка гэтай жанчыны выйшла на вуліцу і раптам пачула моцны выбух. Зірнула на хлеў, а з яго іскры пасыпаліся і пачалося ўзгаранне.

Усхваляваная, яна адразу выклікала выратавальнікаў. У выніку пажару знішчаны дах і частка хлява. Прычына пажару – удар маланкі.

Пра гэта паведаміў інспектар дзяржаўнага пажарнага нагляду Вілейскага раёна **Аляксандр Казакевіч**.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

## Загарэлася кватэра

**ВІЛЕЙКА. Пажар здарыўся 5 жніўня па вуліцы Незалежнасці каля 22.00.**

Сусед убачыў дым і выклікаў МНС.

Кватэра знаходзіцца на чацвертым паверсе пяціпавярховага жылога дома. Работнікі МНС выратавалі 45-гадовую гаспадыню кватэры. Агонь пашкодзіў маёмасць і закурадыміў сцены.

Папярэдняя прычына пажару – кароткае замыканне падаўжальніка.

Пра здарэнне паведаміў інспектар дзяржаўнага пажарнага нагляду Вілейскага раёна **Аляксандр Казакевіч**.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

■ ЗДАРЭННЕ

## У дрэва ўдарыла шаравая маланка

**ВІЛЕЙКА. Гэта здарылася 31 ліпеня а шостай гадзіне раніцы на вуліцы Першая мая.**

– Шаравая маланка ўдарыла ў дрэва, і яно разлязелася на кавалкі, – кажа інспектар дзяржаўнага пажарнага нагляду Вілейскага раёна **Аляксандр Казакевіч**.

Аднін кавалак дрэва зваліўся на машыну і пашкодзіў яе. Другі ўлацеў у акно двухпакаёвай жылой кватэры.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**



Фота lo654.ru.

Шаравая маланка можа быць небяспечнай.

КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

# Пляцовак для сабак няма, а правілы ёсць

**МАЛАДЗЕЧНА. Па дапамогу ў рэдакцыю звярнулася жыхарка Маладзечна Віялета. Яна не ведае, дзе выгульваць свайго сабаку. Спецыяльных пляцовак няма, затое паўсюль вісяць таблічкі з надпісам "Выгул сабак забаронены".**



Фота Галіны СІНІЦЫ.

Такая таблічка з надпісам "Выгул сабак забаронены" стаіць у парку.

Як сказаў галоўны доктар маладзечанскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі **Міхаіл Грабоўскі**, у кожным ЖРЭУ павінны быць спецыяльныя пляцоўкі для выгулу сабак. Аднак ёсць такая толькі ў ЖРЭУ №6 (усяго ў Маладзечне шэсць ЖРЭУ – рэд.). Пляцоўка знаходзіцца па вуліцы Крынічнай. Яна абгароджаная, за ёй даглядаюць.

Увогуле, у ЖРЭУ павінны быць людзі, якія назіраюць за тым, каб дамашніх жывёл выгульвалі па правілах. На практыцы ж гэтыя правілы не выконваюцца.

### Гаспадары хочуць выгульваць сабак у забароненых месцах

Знак "Выгул сабак забаронены" стаіць і ў маладзечанскім парку Перамогі. Па словах намесніцы дырэктара парку **Людмілы Карніловіч**, яго часта ламаюць і выкідаюць у смеційу. Штрафы за гэта пакуль не давалі, аднак папярэджвалі людзей вусна. Увесь час маладзечанцы вядуць барацьбу за права выгульваць сабак менавіта ў парку. Сварацца, калі іх папярэджваюць.

У ЖРЭУ №1 нам расказалі, што раней сабак можна было выгульваць у парку, але цяпер забаранілі. Супрацоўнікі скардзяцца, што аддзел архітэктуры і будаўніцтва не выдзеліў ім новыя месцы пад пляцоўкі для выгулу сабак.

Аддзел жа архітэктуры сцвярджае, што раней яны ўжо вызначалі месцы для пляцовак пад выгул, аднак іх не зрабілі. Цяпер трэба пачынаць зноў.

### Выгульваем сабак з шуфлікам і поліэтыленавым пакетам

Атрымліваецца, што пакуль пляцовак няма і гаспадары выгульваюць сабак дзе хочуць. Аднак правілы для выгулу застаюцца. **Трэба:**

– Выводзіць сабак з кватэр на кароткіх ланцужках і ў намордніку. Выключэннямі з'яўляюцца шчанюкі да трох месяцаў і дэкаратыўныя сабачкі ростам да 25 сантыметраў. Іх можна выгульваць без намордніка.
– Выгульваць сабак у спецыяльных месцах. Пры гэтым у гаспадара павінны быць шуфлік і поліэтыленавы пакет для таго, каб прыбраць за сваім гадаванцам.
– Нельга выгульваць сабак побач з дзіцячымі садкамі, у дварах жылых дамоў, на тэрыторыі школ, паліклінік і бальніц.
– П'яныя гаспадары не маюць права выгульваць сабак.
– Непаўналетнія не могуць выгульваць сабак са спісу патэнцыйна небяспечных парод.

**Галіна СІНІЦА.**

# Прыгожыя кветкі на балконах – хто даглядае

**МАЛАДЗЕЧНА. Яшчэ 27 мая рабочыя з дапамогай спецыяльнай тэхнікі вешалі вазоны на балконах дамоў па Вялікім Гасцінцы, каля гімназіі 6.**

Намесніца дырэктара "Камунальніка" **Зінаіда Рудніцкая** расказала, што вясной для гэтага ЖРЭУ-2 выдалі 400 кашпо.

У Інтэрнэце нават з'явіўся фотарэпартаж, як на дамы чапляюць вазоны, а пад ім – каментары занепакоеных чытачоў:

– У адрозненне ад спадарожнікавых талерак і кандыцыянераў, гэтыя гаршкі з кветкамі бяспечныя? Дзе прыёмная камісія? (Яе не бачна на фотаздымках).

– Сапраўды пасля "Дажынак" Маладзечна стала прыгожым горадам. Вось толькі цікава, як жыхары даглядаюць гэтыя расліны?

### Ці паліваюць кветкі жыхары дамоў?

Калі вазоны пакуль яшчэ з дамоў не зваліліся, то хваляванні наконт таго, ці будуць людзі паліваць кветкі, былі meaningful незнарок. На Вялікім Гасцінцы ў адным і тым жа доме на балконах можна ўбачыць і квітнеючыя кветкі, і чэзлыя.

Некаторыя жыхары, з якімі нам удалося паразмаўляць, скардзіцца на туманы, якія псуюць кветкі. Аднак туман туманам, а кветкі на балконах, што побач, ёсць добра дагледжаныя і зусім не дагледжаныя. Магчыма, некаторым гаспадарам яны проста непатрэбныя, бо гэта дадатковая праца.

– Нам даводзіцца выліваць кожны дзень па два вядры вады, каб кветкі не сохлі, – кажа гаспадар адной з кватэр дома №64. – Раніцай адно вядро, а ўвечары другое.

Безумоўна, ёсць і руплівыя жыхары, якія паспяваюць даглядаць не толькі кветкі на балконе, але і вакол дома. Каля пад'ездаў высаджваюць аксаміткі, вяргіні.

Ёсць жыхары, якім бы і хацелася ўпрыгожыць двор, ды сіл ужо не стае:

– Калі была маладая, то садзіла кветкі, – кажа пажылая жанчына з дома №63, – а зараз ужо сілы не тыя, таму каля пад'езда расце трава. Маглі б маладыя гэтай справай заняцца, бо гэта ж і іх дом. На прыгожае заўсёды прыемна глядзець.

**Галіна СІНІЦА.**

ГІСТОРЫЯ

# Пад знакам Лялівы

**СМАРГОНЬ. Старажытнае Крэва на Смаргоншчыне 10 жніўня чакае гасцей. Тут, у цэнтры сённяшняга аграгарадка, непадалёк ад парэштак старажытнага замка, успомняць падзеі 628-гадовай даўнасці.**


Архіў "РГ".

Крэўскі замак, 1998 год.

Што ж адбылося ў Крэве у той вядомы гісторыі 1385 год?

Гісторыя захавала дату: 14 жніўня 1385 года ў Крэўскім замку быў падпісаны вельмі важны для Вялікага Княства Літоўскага дакумент – Крэўская ўнія, дынастычны саюз паміж ВКЛ і Польшчай, па якім Вялікі літоўскі князь Ягайла браў шлюб з польская каралевай Ядвігай і тым самым станавіўся каралём Польскім. Ягайла з братамі абавязаліся прыняць каталіцтва і далучыць да Польшчы землі ВКЛ.

Сёлета падпісанне Крэўскай уніі адновяць на святе "Пад знакам Лялівы", якое арганізуе ў памяць аб падпісанні Крэўскай уніі Смаргонскі райвыканкам.

Месцам правядзення свята стане Крэва, праўда, як адзначыў намеснік старшыні Смаргонскага райвыканкама **Генадзь Бычко**, не побач з парэшткамі старажытнага замка. Стан руінаў пакуль не дазваляе зрабіць гэта, бо людзям небяспечна знаходзіцца побач з імі – падаюць камяні, і масавае гулянне можа перашкодзіць помніку, рэстаўрацыя якога наканавана Дзяржаўнай праграмай "Замкі Беларусі".

Нагадаем, некалькі гадоў запар у Крэве напачатку ліпеня ладзілася свята ў гонар каранацыі Міндоўга. Сёлета свята вырашылі не праводзіць, бо, на думку Генадзя Бычко, яно не адпавядае гістарычнай праўдзе. Хоць месца каранацыі Міндоўга дакладна невядомае, але ніводная крыніца не называе ў якасці верагоднага месца Крэва.

А мастацкае свята "Пад знакам Лялівы" будзе прысвечанае сапраўднай Крэўскай падзеі.

Мяркуецца, што ўдзел у святе прымуць госці з Польшчы.

**Наталія ВАЛЫНЕЦ.**

**Даведка "РГ". "Ляліва"** – прыватнаўласніцкі герб, якім карысталіся больш за 350 родаў Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы. Вядомы з пачатку 14 стагоддзя. У сінім полі залаты месяц рагамі ўверх, над ім залатая шасціканцовая зорка. Над верхам кароны на паўлінавых пёрах такі ж месяц і зорка. Існуюць варыянты герба: з чырвоным полем; са стралой, якая выходзіць уверх з зоркі, тры страусавыя пяры, з месяцам рагамі ўніз, пад ім зорка.

## Папраўка

У мінулым нумары "РГ" дапушчаная недакладнасць.

Дапамога на пахаванне не выплачваецца ў памеры сярэдняга заробку па краіне за пазамінулы месяц адносна месяца смерці.

Калі памерлы з'яўляецца інвалідам Вялікай Айчыннай вайны, дапамога на пахаванне выплачваецца ў памеры двухмесячнай сумы прызначанай яму пенсіі, але не менш за сярэднюю заработную плату рабочых і служачых у краіне за пазамінулы месяц адносна месяца наступлення смерці.

**Рэдакцыя просіць прабачэння ў чытачоў.**

СТАНДАРТЫ

# Тры прадпрыемствы нашага рэгіёна не маюць сістэм кантролю

**Сёлета ад першага ліпеня ўвялі шэраг тэхнічных правілаў Мытнага саюза на харчовую прадукцыю лёгкай прамысловасці.**

Правілы накіраваныя на павышэнне бяспекі прадукцыі, канкурэнтаздольнасці і вольнае перамяшчэнне па тэрыторыі краін Мытнага саюза.

Гэтыя правілы падзяляюцца на гарызантальныя і вертыкальныя. Першыя распаўсюджваюцца на групу прадукцыі, другія – на канкрэтны від прадукцыі. Напрыклад, сокі трапляюць пад дзеянне патрабаванняў чатырох правілаў Мытнага саюза: вертыкальны рэгламент і тры гарызантальныя рэгламенты.

Для прадпрыемстваў, якія выпрацоўваюць спірт, вінаградныя і пладовыя віны, правілы сталі больш жорсткімі. У першую чаргу ўсе тавары павінны быць сертыфікаваныя да першага ліпеня 2013 года. У іншым выпадку ў прадпрыемстваў не будзе ліцэнзіі на выраб гэтай прадукцыі. З чатырох прадпрыемстваў нашага рэгіёна тры не маюць сістэм кантролю ("Ілаўскае", Маладзечанскі харчовы камбінат, "Маладзечнапіва").

Для прадукцыі лёгкай прамысловасці прыйшлося перанесці тэрмін увядзення гэтых правілаў. Прычына – непадрыхтаванасць прадпрымальнікаў выканаць усе правілы на ўвоз тавараў не з краін Мытнага саюза.

Праекты да прыняцця рашэння размешчаныя на сайтах еўразійскай эканамічнай камісіі (ЕЭК) і Дзяржстандарту для азнаямлення спецыялістамі прадпрыемстваў і падрыхтоўкі прапаноў па іх карэктаванні. Як паказвае практыка, асноўнае вывучэнне патрабаванняў пачынаецца пасля таго, як правілы прынялі. Пасля гэта выклікае мноства пытанняў, затрымлівае мадэрнізацыю вытворчасці пад новыя патрабаванні.

**Маладзечанскі цэнтр стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі.**

**УВЕКАВЕЧВАННЕ ПАМЯЦІ**

# Зроблены яшчэ крок для захавання нашай спадчыны

**МАЛАДЗЕЧНА. Частка нашых суайчыннікаў працуе над увекавечваннем памяці Міхала Клеафаса Агінскага і роду Агінскіх. Цяпер яны стварылі сайт “Спадчына М.К. Агінскага”.**

Сайт – пачатак вялікага міжнароднага праекта па пашырэнні ведаў пра спадчыну і творчасць Міхала Клеафаса Агінскага.

Маладзечанскі дабрачынны фонд “Спадчына М.К. Агінскага” за час свайго нядоўгага існавання паспеў пасябраваць з Расіяй, Літвой, Польшчай. Цяпер пачынаецца вялікая праца са Швецыяй.

Фонд прыцягвае людзей неабыякавых да геніяльнага музыканта, дыпламата, грамадскага дзеяча, змагара за свабоду Міхала Клеафаса Агінскага. Усе яго ўдзельнікі – адна вялікая міжнародная сям'я прыхільнікаў Агінскага.

Шмат што звязвае беларусаў і літоўцаў: гісторыя, геаграфія, эканоміка, а таксама вялікія людзі, якімі аднолькава ганарацца нашы народы. Сярод такіх асоб і Міхал Клеафас Агінскі.

### Распрацоўваецца праект “Масты спадчыны Агінскіх”

Па словах сустаршыні праўлення фонду “Спадчына М.К. Агінскага” **Уладзіміра Сівухі**, цяпер актыўна распрацоўваецца міжнародны праект “Масты спадчыны Агінскіх”. Маштабныя працы па гэтай праграме запланаваныя на восень.

Першы яе этап – культурна-гістарычная паездка ў Літву і правядзенне “круглага стала” “Беларусь – Літва: адраджаючы спадчыну Агінскага”. Ён прайшоў тыдзень таму ў літоўскім горадзе Рэтавас. Арганізатарамі сталі фонд і Рэтаўскі музей гісторыі і культуры Агінскіх.

Падчас “круглага стала” ўдзельнікі падвялі вынікі беларуска-літоўскага супрацоўніцтва па адраджэнні і папулярызацыі спадчыны роду Агінскіх, прааналізавалі мерапрыемствы, якія прайшлі ў межах праграм “Масты спадчыны Агінскіх” і “Шляхамі паланэзаў Агінскага”. Адбыўся таксама паказ дакументальнага фільма, знятага кампаніяй “Белвідэацэнтр”.

Трэба асобна адзначыць супрацоўніцтва фонду з музеем гісторыі і культуры Агінскіх у Рэтавасе і, асабліва, з яго дырэктарам Вітасам Руткаўскасам.

Фота Міхаіла КРЫЖАНОЎСКАГА.

Рыгор Сарока.

### Адраджэнне маладзечанскага замчышча

Шмат што робіць для распаўсюджвання спадчыны Міхала Клеафаса заслужаны аматарскі калектыў Беларусі сімфанічны аркестр Маладзечанскага музычнага каледжа імя Агінскага, яго мастацкі кіраўнік і дырыжор, заслужаны дзеяч культуры **Рыгор Сарока**. Дарэчы, сёлета ён стаў чалавекам года.

Не так даўно ў малой зале музычнага каледжа прайшоў выніковы сход актыву, праўлення і папячыцельскага савета дабрачыннага фонду “Спадчына М.К. Агінскага”, дзе прадставілі два праекты гісторыка-культурнага комплексу “Маладзечанскі замак”.

Маладзечанскае замчышча ў свой час наведалі Напалеон і Кутузаў. Міхал Клеафас быў апошнім з роду Агінскіх, якія больш за стагоддзе валодалі Маладзечнам. Агінскія адкрылі пры замку нядзельную школу, якая пазней перарасла ў настаўніцкую семінарыю.

– Мы хочам на месцы замчышча пабудаваць у міні-выглядзе замкі, якімі валодалі Агінскія па ўсім свеце, – распавядае Рыгор Сарока. – Пабудаваць гатэль, адкрыць выставачную залу, пасадзіць сад і, магчыма, уладкаваць загон для ланяў. Абавязкова будуць працаваць і сувенірныя крамы.

Павел Сапоцька, дырэктар фонду “Спадчына М.К. Агінскага”, адзначыў, што ідэя інтэрактыўнага сучаснага музея праекта **Мікалая Тамашэўскага** выклікала неадназначныя меркаванні. Наведнікам, напрыклад, будзе дазволена браць экспанаты ў рукі. Таксама ён звярнуў увагу на тое, што праект павінен прыцягваць інвестыцыі. Акрамя рэстаўрацыйных работ, плануецца прадоўжыць даследаванне творчай спадчыны Міхала Клеафаса.

### Опера Агінскага – “бомба”

Да таго ж, пішацца опера пра Міхала Клеафаса Агінскага. Як мяркуе Рыгор Сарока, гэта стане “бомбай” на музычным полі нашай краіны. Опера, магчыма, з'явіцца ўжо восенню наступнага года. Яе піша кампазітар **Алег Залётнеў**, лібрэта – **Сяргей Макарэвіч**.

Калі ў вас ёсць жаданне дапамагчы ў распаўсюджванні спадчыны такога чалавека, як Міхал Клеафас Агінскі, то далучайцеся да нашай агульнай справы. Заходзьце на сайт і райце, дапаўняйце, прапаноўвайце, інфармуйце, знаёмцеся, супрацоўнічайце. Мы цэнім кожнага чалавека. Але, галоўнае, не заставайцеся абыякавымі!

**Міхаіл КРЫЖАНОЎСКІ, сябра маладзечанскага мясцовага дабрачыннага фонду “Спадчына М. К. Агінскага”.**

## Будуць адраджаць спадчыну Агінскага

19 ліпеня адбыўся “круглы стол” у горадзе Рэтавас “Беларусь – Літва: на шляху культурнага супрацоўніцтва”.

Праводзіўся ён для таго, каб вызначыць асноўныя напрамкі беларуска-літоўскага супрацоўніцтва па адраджэнні і папулярызацыі культурнай спадчыны роду Агінскіх. Мерапрыемствы, якія абмяркоўваліся на ім, разлічаныя на 2014 – 2015 гады.

“Круглы стол” праходзіў у два этапы. Першая частка адбылася ў зале самакіравання горада Рэтавас, а другая – у Рэтаўскім музеі гісторыі і культуры Агінскіх.

Яго ўдзельнікі вырашылі праводзіць тэматычныя канферэнцыі, “круглыя сталы”, семінары, дабрачынныя мерапрыемствы, арганізоўваць выставы, гастролі, творчыя сустрэчы, канцэрты. Садзейнічаць перакладам навуковых і іншых публікацый на беларускую і літоўскую мовы, аказваць інфармацыйную падтрымку агульным праграмам і праектам, ушаноўваць знамянальныя даты і юбілеі, якія належаць агульнай гістарычнай спадчыне Беларусі і Літвы. Развіваць моладзевыя культурныя ініцыятывы, прыцягваць да працы калегаў з іншых краін (Расіі, Польшчы, Італіі і інш.).

Таксама ў планах удзельнікаў распрацаваць сумесны праект “Шлях культуры Агінскіх” і напісаць пра месцы, звязаныя з жыццём і дзейнасцю роду Агінскіх. Выдаць адпаведны даведнік, ілюстраваны каталог і дыск з фота- і відэаматэрыяламі, сумеснай працы. Развіваць асветніцка-канцэртную праграму “Шлях паланэзаў Агінскага” з удзелам калектываў і выканаўцаў Беларусі, Літвы, Польшчы, Расіі і іншых краін.

**Аддзел інфармацыі.**

ГІСТОРЫЯ

# Успаміны валожынца Мікалая Махнача


Фота забяспечана Мікалаем МАХНАЧОМ.

Мікалай Махнач.

*Заканчэнне. Пачатак у №№6, 7, 9, 12, 14, 16, 18, 24, 26, 28.*

**ВАЛОЖЫН. Успаміны валожынца Мікалая Махнача, які ў 17 гадоў, у 1939-м, пакінуў родныя мясціны і больш туды ўжо не вярнуўся. Цяпер ён жыве ў Злучаных Штатах Амерыкі.**

Пераклад з польскай мовы зрабіла Яўгенія Чаплінская з вёскі Літва Маладзечанскага раёна, былая аднакласніца і тайная сімпатыя Мікалая Аляксандравіча.

## Спаборніцтвы парашутыстаў

Сказаў ім тады, што з'яўляюся польскім урадажэнцам з Заходняй Беларусі і пасля т.зв. "вызвалення" хадзіў у расейскую школу, потым трапіў на "прынудзілаўку" ў Карэлію, а пасля нападу немцаў на Савецкі Саюз уступіў у армію генерала Андэрса і ў шэрагах гэтай арміі "па закону" пакінуў Савецкі Саюз у 1942 годзе. На што той адказаў адразу: "Ну да вы удрали, вы не хотели с нами воевать с немцами".

Не столькі мяне гэта здзівіла, колькі раззлавала. Стрымліваючы гнеў, кажу яму: "То можа вы мне скажаце, як мы гэты цуд зрабілі? Як польская армія, якая налічвала 75 тысяч жаўнераў і 35 тысяч сем'яў тых жаўнераў, размешчаная ў шасці ці сямі гарнізонах Узбекскай ССР, без зброі, абсалютна без транспарту, без ніякіх сродкаў забеспячэння і харчу, магла "удрать" у Іран, аддалены ад Узбекістана недзе на 700 кіламетраў?

Праўда ў тым, кажу таму "бальшавіку", што вяліся перамовы савецкага ўрада з аднаго боку і польскім і ангельскім урадамі з другога боку і нарэшце нас эвакуявалі праз Іран у Ірак, дзе нас узброілі навейшай зброяй і вышкалілі. І калі апынуліся ў Італіі і далучыліся да 8-й брытанскай арміі і 5-й амерыканскай, мы былі адной з найлепшых адзінак на італьянскім фронце.

Адзінае, што той бальшавік сказаў: "Мы вам не доверяли и поэтому вас выпустили". Пад канец размовы запрасіў чатырох з іх (колькі мог пасадзіць у машыну) на ахвотніка да сябе ў госці. Кажу ім, што зробяць мне з жонкай прыемнасць і гонар пабыць у нашым горадзе". Што жыву недалёка, што іх завязу да сябе, каб паглядзелі, як рабочы клас жыве ў Амерыцы, і прывязу назад.

Майго запрашэння яны не прынялі, адгаварыліся недахопам часу, але за запрашэнне падзякавалі. Запытаўся толькі ў майго субяседніка, як яго імя, той сказаў, што Алег.

Праз тыдзень зноў паехалі паглядзець на паветраных акрабатаў. Купіў і прыгожа упакаваў невялічкі падаруначак для Алега і некалькі кавуноў. Але Алега не знайшоў, сказалі, што ён дрэнна сябе адчувае і застаўся ў кватэры.

Толькі зусім не здзівіўся б, калі б Алег трапіў у няласку да якога-небудзь "стража-палітрука" за правакацыйную размову з "изменником".

## Будуем дом

У 1964 годзе ў нас паўстала праблема, як дабірацца на працу. Спаткаўшы калегу-ветэрана, які жыў з сям'ёй ва ўласным доме, расказаў яму пра гэта. А ён і кажа, што каля яго маецца на продаж дзялка зямлі пад дом. Прыедзь да нас з жонкай, паглядзі.

Прыехалі, зайшлі да ўласніка. Участак выглядаў прывабна, 16 сотак. Цана была 1100 даляраў. Як на тыя часы, не завышаная. На ўчастку раслі асіны, клёны, дзікія вішні і кусты.

Вырашылі купіць гэты ўчастак і на ім пабудаваць дом, а той, у якім жылі тры гады, прадаць. Наш банк пагадзіўся і выдаў нам новую пазыку на 16 тысяч даляраў на 15 гадоў. Зрабілі дамову з будаўнічай фірмай, і будаўніцтва пачалося ў жніўні 1966 года.

Будоўля ішла даволі хутка, і на свята Божага нараджэння ў 1966 годзе цалкам ўсяліліся ў новы дом, які меў пяць пакояў з лазенькай, падвалам і гаражом пад усім домам. Усё будаўніцтва з зямлёй каштавала 18500 даляраў, і жылі мы ў ім 23 гады.

Вясной мы купілі некалькі тон зямлі, якую тачкай развёз, пасля разраўняў і засеяў тэрыторыю травой. Пасадзіў на ўчастку дзве срэбныя ялінкі, рабіну і ліпку, а таксама жываплот уздоўж вуліцы. У куце ўчастка ўскапаў 4х5 м зямлі пад гародзік, а каля дому – пад кветнік.

## Госця з Англіі – дачка Колі Белановіча

У 1967 годзе мелі мы госцю з Англіі. Была гэта дачка валожынца Мікалая Белановіча з Касцельнай вуліцы, якая толькі што скончыла школу. Ён і я зналіся з дзяцінства, хадзілі ў тую самую школу, ён на тры гады быў за мяне старэйшы. Яго бацька і мой служылі ў царскай арміі падчас Першай сусветнай вайны.

Пасля "вызвалення" нас саветамі Мікалай быў арыштаваны, сядзеў у валожынскай турме ў падвале аднаго з Тышкевіцкіх палацаў, быў асуджаны і высланы ажно на Кольскі паўвостраў ў лагер. Пасля нападу немцаў на Савецкі Саюз быў амніставаны і, як я, уступіў у польскую армію.

Удалося нам сустрэцца толькі ў Італіі ля Адрыятыкі. Ад таго часу былі ў кантакце ўсе наступныя гады. У Англіі Коля Белановіч ажаніўся з ангельскай (быў на ангельскім вяселлі) і хутка стаў татам, у яго сям'і нарадзілася дачушка Альжбета. Вось яе і запрасілі да нас, каб правесці месяц канікулаў у Злучаных Штатах. Ёй было акурат 18 гадоў. Дзяўчына ніколі гэтага знаходжання ў Амерыцы не забыла. Усе наступныя гады перапісваліся з намі.

Мой прыяцель Мікалай Белановіч, калі пішу гэтыя словы (лістапад 2010 года) менавіта скончыў круглыя 90 гадоў і з'яўляецца гордым беларусам, бацькам, дзядулем і прадзядулем.

## Запрашэнне ў госці

Так як у Штатах жылося ў дастатку, то не забывалі пра нашых родных, маіх – у Беларусі і жонкі – у Польшчы. У Польшчу значна лягчэй было нешта пасласць, чым у Савецкі Саюз. Жонка высылала сваёму брату, нават далейшым крэўным пасылкі з вопраткай, абуткам, часам лекамі і нават грошы. А саветы вымагалі, каб усё было новае, застрахаванае і заплачанае мыта такое, як і кошт пасылкі. Калі рэчаў у пасылку запакавана на 120 даляраў, напрыклад, то іншыя 120 – за мыта і страхоўку, бо інакш мая матуля не магла яе выкупіць. І ўжо абсалютна нельга было высылаць даляры, бо каб знайшлі, то бабульку маглі яшчэ і арыштаваць. Таму высылаў не больш за дзве пасылкі на год. Не інакш было і з сястрой, якая жыла і працавала ў Малдавіі.

Недзе ў сярэдзіне 70-х хацеў адведаць сястру ў Малдавіі. Для гэтага трэба было запрашэнне ад сястры і швагра, зацверджанае мясцовымі органамі дзяржаўнай бяспекі.

Сястра пайшла з той справай у адпаведную ўстанову ў раёне і тлумачыць, што хоча запрасіць свайго брата ў госці, але той жыве за мяжой. Чыноўнік і кажа: "Пожалуйста, в какой стране он проживает?". Сястра адказала, што ў Злучаных Штатах. Як ён тое пачуў, падняў адразу вочы і так гучна сказаў: "Что, ваш брат живет в Америке? А что же он, предатель, там делает?" Сястры гэта забалела і рашылася на смеласць, каб "апаратчыку" сказаць, што брат нарадзіўся польскім грамадзянінам, што ўступіў у польскую армію і што ў радах гэтай арміі законна пакінуў Савецкі Саюз і потым на італьянскім фронце змагаўся з тым самым немецкім ворагам, што і яе муж, знаходзячыся ў Чырвонай Арміі. Запрашэнне не прыйшло, і ў госці я не паехаў.

## Пенсія

Год ляцеў за годам, ажно надышоў пенсійны век. Заведзена ў Штатах, што людзі працуюць да 65 гадоў. Але можна пайсці і ў 62 гады, толькі тады атрымліваеш 80% пенсіі. Можна было тады знайсці нейкую часовую працу і дапрацаваць.

Так і зрабіў. Пайшоў на пенсію ў 62 гады і знайшоў занятак прыбіральшчыка на пяць гадзін удзень на могільніку. Праца была на вуліцы, пераважна ў цішы, птаства і малыя звяркі, як вавёркі, дзікія трусікі, рабілі яе прыемнай. А калі ішоў дождж ці была завіруха, то ішоў дахаты.

Два гады пазней жонка таксама пайшла на пенсію. Дома трымалі некалькі курак, катка і парачку канарэек.

## Пераезд у Польшчу

У 1987 годзе вырашылі пераехаць у Польшчу. Думалі, што там наша пенсія дазволіць жыць у дастатку, наведаем яшчэ еўрапейскія краіны, будзем бліжэй да Беларусі. Мелі вялікія спадзяванні, што ўсё складзецца, як найлепш. Спатрэбілася паўгода, каб справіць усе патрэбныя дакументы, прадаць дом у Штатах, запакаваць і павысылаць марскім шляхам некаторыя рэчы. Унеслі папярэднюю аплату за самаход польскай вытворчасці "Паланэз", каб ужо ў Польшчы мець свой транспарт.

У верасні 1987 года прыехалі ў Польшчу і часова пасяліліся ў сына маёй школьнай сяброўкі з Валожына.

На жаль, у народнай Польшчы ўлада была ў руках камуністаў, якія амаль ва ўсім бралі прыклад з усходняга суседа. Як сказаў мне адзін з новых знаёмых: "Камуністычны рэжым спаршывіў наш народ". Вечны балаган, заўсёдныя нястачы, хабарніцтва, звязаныя з хітраваннем. Быццам "Салідарнасць" рабіла шмат шуму і нешта там спрабавала зрабіць, але старыя звычкі па-ранейшаму мучылі. Усюды былі нястачы і чэргі ў магазінах.

Ужо ў кастрычніку паведамілі нам, што можам забраць нашага "Паланэза", за які яшчэ ў Штатах заплацілі тры тысячы даляраў. Праз шэсць месяцаў удалося нам набыць вельмі ладны дом у Ольштыне за 28 тысяч даляраў.

Крыўдзілі нас, пры абмене даляраў нашай пенсіі на злотыя. У той час калі нам даляры мянялі па 28-29 злотых за 1 даляр, то на чорным рынку плацілі па 80-90 і нават па 100 злотых за даляр. За прэм'ерам М.Ракавецкім было яшчэ больш непрыстойна, бо 40% нашай пенсіі пакідалі нам у далярах, а 60% абменьвалі па афіцыйным курсе – у сярэднім па 30 злотых за даляр.

Яшчэ нас абклалі падаткам ад прыбытку, у дадзеным выпадку ад нашай амерыканскай пенсіі, якую штомесяц прысылалі са Штатаў. Пачалося даволі нявінна і сціпла – з 12%, наступны год ужо было 18%, потым 22%, яшчэ пазней – 28% і нарэшце ажно 42%.

Гэта ўжо было рабаванне сярод белага дня. Не было іншай рады: альбо сядзець у Польшчы і быць рабаваным урадам Салідарнасці, альбо вяртацца ў Штаты. Вырашылі з жонкай усё збыць і вярнуцца.

Дом прадалі за "астранамічную суму" 900 мільёнаў злотых, што ў пераліку на даляры было 40 тысяч.

Вярнуўшыся ў 1993 годзе, пасяліліся ў вядомым нам невялікім гарадку Вэбстэр у штаце Масачусетс. Там і жывём па сённяшні дзень.

**Мікалай МАХНАЧ, ЗША.**

КАЛЯНДАР

**9 жніўня.** 55 гадоў з часу заснавання (1958) Гродзенскага медыцынскага інстытута (з 2001 года – Гродзенскі дзяржаўны медыцынскі універсітэт).

***

**120 гадоў** з дня нараджэння Васіля Мачульскага (1893–1973), беларускага літаратуразнаўца, кандыдата філалагічных навук. Вучыўся ў Варшаўскім універсітэце (1911 – 1915), закончыў Маскоўскі універсітэт (1917). Удзельнічаў у падрыхтоўцы выдання твораў М. Багдановіча, А. Гаруна. Даследаваў сувязі "Слова аб палку Ігаравым" з беларускім фальклорам.

***

**10 жніўня.** 135 гадоў з дня нараджэння Еўсцігнея Міровіча (сапр. Дунаеў) (1878 – 1952), рэжысёра, драматурга, педагога, аднаго са стваральнікаў беларускага тэатра, народнага артыста Беларусі.

***

**13 жніўня.** 100 гадоў з дня нараджэння Анатоля Багатырова (1913 – 2003), кампазітара, педагога, народнага артыста Беларусі.

***

**1956 год.** Памёр Якуб Колас, народны паэт Беларусі. Пахаваны на вайсковых могілках у Мінску.

***



**14 жніўня.** 110 гадоў з дня нараджэння Сцяпана Бірылы (1903 – 1978), беларускага акцёра, народнага артыста Беларусі.

***

**15 жніўня.** 110 гадоў з дня нараджэння Пятра Ракіцкага (1903 – 1977), біёлага-генетыка, акадэміка Акадэміі навук Беларусі, заслужанага дзеяча навукі Беларусі.

***

**90 гадоў** з часу адкрыцця (1923) Беларускага павільёна на Усерасійскай сельскагаспадарчай і саматужна-прамысловай выставе ў Маскве.

***

**1813 год** (200). Адбыліся антыфеадальныя хваляванні сялян у Віленскай, Мінскай і Віцебскай губернях.

***

**1833 год** (180). Пачатак будаўніцтва Брэсцкай крэпасці (завершана ў 1842 годзе).

***

**1873 год**, восень (140). Увод у эксплуатацыю магістралі Маладзечна-Мінск-Бабруйск-Гомель Лібава-Роменскай чыгункі.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

ДА ДНЯ БУДАЎНІКА

# Трэст, які будаваў Беларусь

**МАЛАДЗЕЧНА. Будаўнічы трэст, які ў канцы сваёй біяграфіі называўся "Маладзечнасельбуд" – адзін з самых магутных у Беларусі, – быў утвораны 5 студзеня 1940 года Саветам Народных Камісараў БССР і базіраваўся першапачаткова ў Вілейцы – тагачасным абласным цэнтры. Перастаў існаваць ён у 1997 годзе.**

Сённяшняе аблічча Маладзечна, іншых гарадоў і вёсак нашага рэгіёна стварылі ў пасляваенныя дзесяцігоддзі будаўнікі. Вядучай будаўнічай арганізацыяй амаль да самага канца мінулага стагоддзя быў "Маладзечнасельбуд". Штрыхі з яго біяграфіі занатаваў для чытачоў "Рэгіянальнай газеты" былы галоўны інжынер трэста маладзечанец **Мікалай Даргель**.

Другое нараджэнне трэст атрымаў 18 ліпеня 1944 года. Тады арганізацыя была адноўленая, а ў верасні трэст пераводзіцца ў новы абласны цэнтр – Маладзечна.

Вайной былі разбураныя гарады, прамысловыя прадпрыемствы, вёскі былі сцёртыя з твару зямлі. Людзі былі рады хаця б якому даху над галавой. Толькі ў Маладзечне ў 1944 годзе ў зямлянках і наспех узведзеных бараках туліліся 1680 сем'яў. Вось у такіх умовах тады пачынаў працаваць трэст.

Кіраўніком трэста быў прызначаны **Міхаіл Падольны** – камандзір партызанскага атрада "Знішчальнік", а кіраўнікамі будаўнічых участкаў сталі партызаны брыгады імя Варашылава **Іван Гетманскі** і **Пётр Лярсан**.

У ліку першых рабочых сталі партызаны гэтай самай брыгады **Андрэй Панамароў**, **Барыс Мартынаў**, **Леў Нікольскі**, **Генадзь Богдан**, **Аляксандр Карташэвіч**, **Іван Баўтраш**, **Мікалай Сініцкі** і іншыя. У калектыве трэста працавалі больш за 250 удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны.

Спачатку работы трэстам вяліся толькі ў Маладзечне і Вілейцы. У далейшым зона дзеяння распаўсюдзілася на ўсе раёны вобласці: Івянецкі, Валожынскі, Юрацішскі, Смаргонскі, Ашмянскі, Астравецкі, Мядзельскі, Глыбоцкі, Пастаўскі, Браслаўскі, Мёрскі, Шаркаўшчынскі. У складзе трэста пазней былі створаныя будаўнічыя ўпраўленні ў Глыбокім, Вілейцы і тры ў Маладзечне.

Асаблівая ўвага ў першыя часы пасля вайны надавалася будаўніцтву жылых дамоў і інтэрнатаў, аб'ектаў па вытворчасці прадуктаў харчавання, энергазабеспячэння, будаўнічых матэрыялаў з наступным, у 1950-х гадах, павелічэннем сіл на будаўніцтва клубаў і кінатэатраў, школ і бальніц, МТС і жывёлагадоўчых памяшканняў ў саўгасах.

За гэты час толькі ў Маладзечне былі пабудаваныя: электрастанцыя, гармалзавод, мясахаладзільнік, мэблевая фабрыка, кінатэатры "Радзіма" і "Камсамолец", дзіцячая абласная бальніца, дзве школы і два дзіцячых садкі, гарадская бібліятэка, універмаг, ГПТВ-21, будынкі абкама і гаркама КПБ, будынак райвыканкама.

У канцы 1950-х былі поўнасцю забудаваныя вуліцы Машэрава і Маркава, частка вуліцы Віленскай, якая прылягае да Цэнтральнай плошчы і вуліца Прытыцкага, а таксама Валынца, што прылягае да фабрыкі музінструментаў. Усёй часткі горада ад Цэнтральнай плошчы да вуліцы Гарадоцкай і далей, у бок Мінска, проста не было. Тут раскінулася саўгаснае поле.

У 1953 годзе трэст быў перайменаваны ў будаўнічы трэст №12, а ў 1957 годзе – у Маладзечанскі абласны агульнабудаўнічы трэст №14. У снежні 1965 года трэст перададзены ў падпарадкаванне наноў створанага Міністэрства сельскага будаўніцтва БССР з перайменаваннем ў Маладзечанскі сельскі будаўнічы трэст "Маладзечнасельбуд".

У гэты час трэст ужо быў магутнай будаўнічай структурай, якая аб'ядноўвала 13 гаспадарча-разліковых арганізацый: генпадрадныя ПМК-42, ПМК-77, ПМК-130, спецыялізаваныя: СПМК-124, СПМК-149, СПМК-168, УМ-4 і УВТК у Маладзечне, ПМК-23 у Вілейцы, ПМК-24 і ПМК-137 у Мядзеле, ПМК-64 у Валожыне і ПМК-161 у Заслаўі.

У гэтай зоне трэст здзяйсняе поўны аб'ём будаўніча-мантажных работ як па ўзвядзенні аб'ектаў сацкультбыту, уключаючы Дамы адпачынку і піянерскія лагеры ля возера Нарач, паблізу Радашкавічаў, Ракава, так і ўсіх прамысловых і сельскагаспадарчых аб'ектаў.

Магутнасць трэста ўзмацнялася. З'явіліся сучасныя тэхніка і механізмы. Толькі ва ўпраўленні механізацыі УМ-4 налічвалася больш за 150 адзінак тэхнікі. У аўтабазе "Маладзечнасельбуд", якой больш за 34 гады, кіраваў **Георгі Шавялёў**, таксама было каля 150 адзінак аўтамабіляў рознай грузападымальнасці і прызначэння.

З'явіліся новыя сродкі механізацыі і новыя будаўнічыя тэхналогіі, новыя віды будматэрыялаў, што значна павялічыла прадукцыйнасць працы і палепшылася якасць работ. Асноўная частка гэтых тэхналогій канцэнтравалася і ўкаранялася ў спецыялізаванай арганізацыі СПМК-124, у якой працавала больш за 450 чалавек, якія выконвалі ўсе віды аддзелачных і спецыяльных будаўнічых работ. Ля вытокаў яе стварэння ў лютым 1956 года стаяў дасведчаны будаўнік і кіраўнік **Ілля Локіс**.

У выкананні складаных задач адыгрывалі калектывы ўпраўленняў і іх кіраўнікі. Многія з іх выраслі ў асяродку калектываў: **Уладзімір Бандаровіч**, **Мікалай Панкавец**, **Міхаіл Бялюн**, **Рамуальд Бездзель**, **Віталь Саковіч**, **Аляксей Сашэнка**, **Алег Кулак**, **Пётр Варатынскі**, **Віталь Галубовіч**, **Іосіф Жук**, **Барыс Богуш**, **Уладзімір Уэльскі**, **Аляксандр Назаранка**, **Вячаслаў Вялічка**, **Іван Седлюкоўскі**, **Мікалай Каратыш**, **Уладзімір Зянько**, **Анатоль Фяцковіч**.

Шмат працы, сіл і здароўя для выканання пастаўленых задач было ўкладзена такімі кіраўнікамі, як **Леў Кірылаў**, **Аляксандр Кляйман**, **Эдуард Войтаў**, **Іван Някрасаў**, **Пётр Ган**, **Уладзімір Корбань**, **Аляксей Хлебавец**, **Уладзімір Бялько** (працуе па сёння), які вывеў калектыў завода ЖБК у лік перадавых, **Соф'я Харлан**, якая не дапусціла ліквідацыю старэйшай аддзелачнай СПМК. Гэта і кіраўнікі аддзелаў і службаў трэста і будаўнічых упраўленняў **Раіса Сідарэвіч**, **Зоя Сарокіна**, **Мікалай Лінік**, **Вячаслаў Кляйман**, **Мікалай Ілюхін**, **Павел Ганецкі**, **Вера Салагуб**, **Аляксандр Машко**, **Надзея Кавальцова**, **Сяргей Кісялёў**, **Зінаіда Доста** і многія іншыя.

**Мікалай ДАРГЕЛЬ, былы галоўны інжынер трэста.**
**Заканчэнне будзе.**

Усіх будаўнікоў-ветэранаў віншуем з іх прафесійным святам! Вашымі рукамі ў самым прамым сэнсе будавалася будучыня Беларусі. Неацэнны ўклад у дабрабыт жыхароў нашай краіны зрабілі вы, шчырыя працаўнікі, якія ў самых складаных умовах садзіліся за рычагі бульдозера, бралі ў рукі кельмы і пэндзлі. І за кожнай перарэзанай чырвонай стужкай ці ключамі да кватэры навасёлаў заўсёды была цяжкая штодзённая праца чалавека. Імя якому – Будаўнік.

## ДОШКА ГОНАРУ


Пётр Шынкевіч
брыгадзір БУ-63
1961


Рыгор Купрыенка
брыгадзір БУ-63
1962


Іван Хорт
цясляр БУ-63
1965


Міхаіл Барадака
экскаватаршчык УМ
1967


Рамуальд Бездзель
старшы прараб ПМК-42
1967


Юзэфа Хільмановіч
муляр ПМК-42
1974


Васіль Рысік
мантажнік ПМК-130
1976


Зінаіда Ліс
маляр СПМК-124
1978


Анатоль Мамкін
брыгадзір СПМК-124
1978


Міхаіл Субач
машыніст аўтакрана УМ
1978


Валянціна Бялінская
тынкоўшчыца СПМК-124
1979

**Гэта толькі частка перадавікоў трэста, імёны якіх заносіліся на Дошку гонару прадпрыемства, раёнаў, вобласці. У Кнізе гонару трэста, якая і стала для нас крыніцай гэтай інфармацыі, некалькі дзясяткаў прозвішчаў. Першае імя ўнесенае ў 1961 годзе, апошнія запісы не датаваныя.**

КОНКУРС

# "РГ" абрала пераможцу футбольных крычалак

## Рэдакцыя газеты шукае пераможцу пана Шыманскага, каб уручыць яму прыз




Архіў "РГ".

Футбольныя фанаты – гэта не толькі людзі, якія любяць футбол, гэта надзейная падтрымка сваёй каманды.

**МАЛАДЗЕЧНА. Як падтрымаць любімую каманду і дапамагчы ёй выйграць? Правільна, спартыўнай крычалкай!**

Еўрапейцы спяваюць песні і танцуюць на трыбунах, а беларускія заўзятары выкарыстоўваюць крычалкі – даволі эфектыўны псіхалагічны метад падтрымкі. Магутныя дэцыбелы крычалак нярэдка вельмі дапамагаюць праявіцца спартыўнаму патэнцыялу каманды.

"Рэгіянальная газета" падчас чэмпіянату другой футбольнай лігі звярнулася да голасу фанацкага сектара "Маладзечна-2013" і прапанавала конкурс на самыя цікавыя і незвычайныя крычалкі, зарады, песні, якімі фанаты падтрымаюць любімы клуб.

Магчыма, з дапамогай гэтых крычалак значна абновіцца рэпертуар. Цяпер новага і цікавага нашмат больш.

Вольга ЮРКЕВІЧ.

### Крычалкі, якія даслалі ў рэдакцыю

*"Калі верыш, калі можаш – ты заўсёды пераможаш".* **Андрэй**

*"Молафутбалісты самыя ўвішныя".* **Аляксей**

1. *Бела-зялёны – самы нязломны!*
2. *Мы – магутныя мужчыны!*
   *Мы – нязломныя ваяры!*
   *Вера, горад і краіна –*
   *Ідэалы назаўжды!*
3. *Мы – каманда чэмпіёна!*
   *Мола – першы ў сэрцы клуб!*
   *Стань у шэраг легіёна –*
   *Стань героем з намі тут!*
4. *Наперад клуб, ляці стралой,*
   *Ляці стралой – на цяжкі бой,*
   *Ляці стралой – на слаўны бой –*
   *За Мола мы стаім гарой!*
5. *Горад сонца – горад даўні!*
   *Пераэжыў ты сто аблог!*
   *Мола – град традыцый слаўных!*
   *Цэнтр футбольных перамог!*

**Пан Шыманскі**

ВАНДРОЎКІ

# У водны паход хадзілі і пенсіянеры, і піянеры

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад 15 па 25 ліпеня турысты з Маладзечна падарожнічалі на байдарках.**

У паход пайшлі восем чалавек, самаму малодшаму ўсяго 10 гадоў, а старэйшаму – 65.

– Пачалася наша вандроўка з пасёлка Астравок Стаўбцоўскага раёна, – кажа ветэран турклуба "Пілігрым" **Вячаслаў Вянглоўскі**. – Ён знаходзіцца на рацэ Уса.

Каб даехаць да гэтага месца, вандроўнікі наймалі машыну з Маладзечна. За адзінаццаць дзён яны прайшлі на байдарках 220 кіламетраў.

Кожны дзень, пасля пяці гадзін вечара, яны шукалі сабе начлег, расстаўлялі палаткі і гатавалі вячэру.

Вандроўнікам пашчасціла, што не было дажджу. Ён заўсёды пачынаў ісці толькі пад вечар. Тады яны пераварочвалі байдаркі, ставілі палатку, складвалі туды ўсе свае рэчы, каб яны не прамоклі, і распальвалі вогнішча.

– У нас былі чатыры байдаркі, – працягвае Вячаслаў. – Розлічылі так, каб у кожнай былі па два чалавекі. Спачатку паплылі па рацэ Уса, а потым, калі яна злілася з ракой Неманец, плылі ўжо па Нёмане.

Прайшлі вандроўнікі праз вёску Наднёман, дзе стаяць руіны палаца **Якуба Наркевіча-Ёдкі**, там жа знаходзіцца і яго магіла. У ЗША знайшліся яго нашчадкі, і цяпер яны хочуць выкупіць зямлю і аднавіць палац.

Потым наведалі музей-сядзібу Коласа, што ў Стаўбцоўскім раёне. Настаўнік гісторыі і былы дырэктар музея **Міхаіл Астапкевіч**, які ў першы раз пайшоў у водны паход, правёў усім экскурсію. Ён якраз родам з тых мясцін.

Далей вандроўнікі паплылі ў Гродзенскую вобласць. Там пабачылі Лаўрышаўскі манастыр, які быў пабудаваны ў 13 стагоддзі, яго цяпер рэстаўруюць. Пашчасціла ім паглядзець і на тое, як аднаўляюць Любчанскі замак.

– Самае дзіўнае, што падчас нашай вандроўкі мы сустрэлі толькі адну кампанію на байдарках з Бабруйска, – кажа Вячаслаў Вянглоўскі. – Раней жа пустога месца не было ад лодак, турыстаў было нашмат больш, чым цяпер.

Вольга ЮРКЕВІЧ.

НАВІНЫ

## "Смаргонь" прайграла "Бярозе-2010"

**СМАРГОНЬ.** У 15-м туры чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе 3 жніўня футбольны клуб "Смаргонь" гуляў на дамашнім стадыёне супраць каманды "Бяроза-2010".

Смаргонцы прайгралі з лікам 0:1. Госці адзначыліся на 92-й хвіліне. "Смаргонь" завяршала матч у меншасці: на 68-й хвіліне пасля другой жоўтай карткі поле пакінуў **Сяргей Крот.**

Вось як у інтэрв'ю неафіцыйнаму сайту ФК "Смаргонь" пракаментаваў гульню галоўны трэнер каманды **Павел Бацюта:**

– Асноўнае, што я магу сказаць, – без забітых галоў не бывае перамог. Моманты, якія ў нас былі, мы не рэалізавалі. Таму і не дасягнулі выніку сёння. Напрыклад, двойчы Сяргей Крот быў блізкі да поспеху. Увогуле, сёння была адкрытая гульня. У першым тайме, ды і ў пачатку другога, нам не хапала завяршальнага паса.

Што тычыцца выдалення. Сяргей Крот здзейсніў адмашку рукой у грудзі саперніка, чым падвёў каманду. Мы засталіся ўдзесяцёх, што, натуральна, паўплывала на ход гульні. Мы перастроіліся на 4-4-1, стварылі моманты на контратаках, забілі гол, праўда, ён не быў залічаны з-за становішча паза гульнёй.

**Дзмітры Гінтаў** уцякаў у адрыў з цэнтра поля, але пасля кантакту з апошнім абаронцам апынуўся на газоне. Свісток суддзі прамаўчаў. Гэты момант я аднясу да спрэчных. Ды і каментаванне дзеяннях арбітраў – не ў маіх правілах. А завяршылася ўсё прапушчаным голам на 92-й хвіліне.

## "Маладзечна-ДЮСШ-4" выйшла на другое месца

**МАЛАДЗЕЧНА.** Пасля трынаццага туру чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе "Маладзечна-ДЮСШ-4" выйшла на другое месца (доўгі час маладзечанцы былі трэцімі).

Гэта стала магчымым пасля перамогі маладзечанцаў над камандай "БСЗ" (Бярэзінскі раён) і пройгрышу "Нёманагра" жодзінцам.

Перамогу "Маладзечна-ДЮСШ-4" атрымала звышупэўненую: 4 жніўня дома разграміла "БСЗ" з лікам 8:1.

"Забудова-2007" з Чысці, наадварот, разгромна прайграла: дома 3 жніўня чысцінцы саступілі камандзе "Колас" з Чэрвеньскага раёна 1:6.

## "Вілія" разграміла "Старыя Дарогі"

**ВІЛЕЙКА.** У суботу, 3 жніўня, каманда "Вілія" парадавала сваіх заўзятараў. У матчы трынаццатага туру чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе віляйчане дома разграмілі ФК "Старыя Дарогі" 6:0.

– Пасля чацвертага прапушчанага мяча госці ўжо гулялі апусціўшы рукі. І лік мог быць нават яшчэ большы, – паведаміў старшыня Вілейскай раённай федэрацыі футбола **Ігар Шабан**. – Хаця ў першым тайме ў гасцей былі добрыя моманты, каб забіць гол.

## У лідарах – "Фламетр" і "Першы Беларускі"

**ВІЛЕЙКА.** 4 жніўня адбыліся гульні шостага тура чэмпіянату раёна па футболе. Каманда "Першы Беларускі" абыграла прадстаўнікоў СВК "Чурлёны" 5:2, "Фламетр" выйграў у "Шылавічаў" з лікам 2:0.

Пакуль у лідарах чэмпіянату каманды "Фламетр" і "Першы Беларускі". Яны набралі па 12 ачкоў.

## Кубак раёна

**МЯДЗЕЛ.** У суботу, 10 жніўня, на пляцоўцы на гарадскім пляжы адбудуцца гульні на Кубак раёна па пляжным валейболе. Гульцы будуць змагацца ў трох узроставых групах: да 40 год, 40-49 і за 50 год.

Аддзел інфармацыі.

ФОТАФАКТ З МАЛАДЗЕЧНА




Фота Вольгі ЮРКЕВІЧ.

31 ліпеня да "Лядовых пінгвінаў" прыязджалі мінскія "Ястрабы". З-за паражэння ў вырашальнай фінальнай гульні – 0:4 – узялі срэбра.

## Камент-эксперт




**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

### Выбіралі мілагучныя назвы вуліц

Хто аўтар вось гэтых назваў? Упэўнены, што народ, да якога звярталіся, да такога не здолее дадумацца, адукацыі не хопіць. Гэта змог прыдумаць толькі вялізны геній. Таму прапаноўваю яго імем назваць галоўную вуліцу горада, забяспечыць яго ражыццёвымі льготамі, якія толькі існуюць у краіне. І, канешне ж, за такі патрыятызм, акрамя звання "ганаровага грамадзяніна", абавязкова ўручыць Зорку героя. І яшчэ. На якой мове напісаныя гэтыя "легендарныя" назвы? Гэта ўжо нават не на трасянцы, а на нейкай ліхаманкавай! Чаму менавіта Радужны(й), а не Вясёлкавы; Вя(е)сенні(ий), а не Васновы (й); Дружны(й), а не Сяброўскі? На Лясных так і засталася вісець шыльда з назвай вуліцы "Полночная", якая замяніла назву "Паўночная". І вось такое перайменаванне, якое змяніла сэнс і значэнне назвы, каторы год рэкламуе нейчую неадукаванасць. А яе ніхто не заўважае, а можа, і не хоча заўважаць. Магчыма, яны атрымоўваюць задавальненне, каверкаючы родную мову! Спадарства! Не ствараўце адсябечыну, а загляніце ў гістарычнае мінулае і звярніце ўвагу на прапановы грамадзян, да якіх вы звярталіся, і толькі пасля прымайце канчатковыя рашэнні. **Алесь Раткевіч.**

Камісія па перайменаванні вуліц не зусім адказна падышла да справы. Што гэта за назвы – Радужная, Славянская, Святочная, Шырокая (шэсць палос руху ў адзін бок, шэсць – у другі… А Мікалая Гастэлы, міф героя якога ўжо развенчаны. Ёсць на Маладзечаншчыне, у Беларусі знакамітыя асобы, імя якіх і трэба ўвекавечваць у вуліцах. Яны гэтага заслужылі. **Ева.**

**ПОГЛЯД**

# Колькі грошай вы гатовыя аддаць за кнігу?

**МАЛАДЗЕЧНА. Аддасце 60 тысяч за 4 старонкі? Ці 150 тысяч за 10? Дарагавата? І папера ў іх без пазалоты, за што ж тады трэба плаціць такія грошы…**


Фота jabloqo.com.

**На што толькі не ідуць выдаўцы, каб зацікавіць маленькага чытача.**

"Кніга агучана вядомымі акцёрамі", чытаю на адной з самых дарагіх у маладзечанскай кніжнай краме. Адкрываю, і прыемны голас пачынае чытаць казку, а я магу не напружвацца і не ўглядацца ў літары, а сканцэнтравацца на карцінках. Дарэчы, кніга гэтая за 300 тысяч увогуле адна суцэльная карцінка.

Побач ёсць музычныя кнігі ўжо з іншымі навваротамі. Напрыклад, з фірменнымі фразамі галоўных герояў. Думаю, калі праслухаць іх разоў сто, сапраўды загаворыш як Дональд Дак ці яшчэ хто-небудзь.

Перада мной паліца з "3D-кнігамі". Візуальная эфекту выпукласці герояў са старонак у іх пакуль няма. Затое да кнігі прыкладаюцца мадэлі караблёў, піратаў і ўсяго таго, пра што расказваецца ў кніжцы. І, галоўнае, надпіс: "Збяры мадэль і разыграй казку альбо прыдумай сваю ўласную". Прачытала і ўжо адчуваю сябе казачніцай ды геніяльнай фантазёркай. Нічога не скажаш, добра прыдумалі, самой захацелася пагуляць і паказаць аўтару, як выдумляць трэба.

Позірк мой трапляе на "старонкі можна выцісказь", і я ўжо спрабую цікаць кнігу. Думаю, ну няўжо можна з ёй у ванну залезці і пад вадой чытаць! Але мае мары разбіваюцца ўшчэнт. Я разумею, што тут усяго толькі можна дастаць са старонкі фрукт. Ён па форме выразаны, яго можна выкалупаць, а потым уставіць назад. Аднак пасля музычных эфектаў і 3D мне гэта падаецца занадта простым.

Заўважаю нешта больш цікавае. Стаю, разглядаю падушку. Думаю, ну што ў кніжнай краме робіць падушка? Бяру ў рукі і разумею, што яе можна гартаць. Усяго 4 лісты, затое што можна з імі вырабляць: пад галаву падкласці, паспаць на іх, пасядзець. Вось дык універсальная кніга, вось дык дзіва-падушка!

Тут жа ляжыць яшчэ адна кніга-гібрыд. Да яе прымацаваная мяккая галава мядзведзя. Ён, відавочна, яе галоўны герой, бо на кожнай старонцы ў розных позах ды уборах. Правільна, галава адна, прымацаваная яна да апошняй старонкі, і з месца яе не зварухнеш.

Я ўжо не ўзгадваю кнігі з наклейкамі і рознымі ўкладышамі.

Побач з кнігамі ў краме ляжаць размалёўкі. Не магла не зазірнуць і туды і знайшла даволі цікавую рэч. Мабыць, зробленую спецыяльна для самых лянівых. Называецца неяк накшталт "Адчуй сябе чараўніком". Размалёўваць нічога не трэба, бо ўсё размалюецца само, трэба толькі намачыць пэндзаль і правесці па паперы.

Але вяртаюся да кніг. Дарэчы, іх можна знайсці не толькі ў кніжнай краме. Іх прапаноўваюць і інтэрнэт-крамы, і асобныя гандляры.

Так я пабачыла кнігі-тэатр. Такую разгортваеш, а адтуль высоўваецца пашча кракадзіла. Прычым на кожным развароце што-небудзь іншае.

Знайшла і цікавыя кнігі, дзе можна гуляць з колерамі карцінак. Ён можа знікаць і зноў з'яўляцца, але як гэта працуе, вельмі складана патлумачыць на пальцах.

Карацей, выбар ёсць. Дзіця хоча нешта, што будзе мільгаць, гаварыць, здзіўляць, пець? У кніжнай краме можна знайсці тое, што яму спадабаецца, трэба толькі грошы. Можа, гэта і ёсць выйсце, калі трэба навучыць дзіця любіць кнігі. Аднак ці палюбіць яно потым штосьці больш простае? На жаль, гэта мы ўбачым, толькі калі падрасце пакаленне, якому дастаўся такі багаты выбар.

**Настасся РОЎДА.**

**СУДОКУ**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 4 | | | 2 | | 3 | 5 | 8 |
| | 2 | | | | | 1 | | |
| 6 | | | | 4 | | | | |
| 3 | | 6 | | | 2 | | 8 | |
| | | 9 | | | | 2 | | |
| | 7 | | 8 | | | 4 | | 3 |
| | | | | 5 | | | | 7 |
| | | 1 | | | | | 9 | |
| 7 | 6 | 3 | | 9 | | | 1 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



**РЭПЕРТУАР**

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Трылер "**Штурм белага дома**" (ЗША, 2 серыі, для гледачоў, якім за 16)
9 жніўня – у 21.00
10, 11 жніўня – у 18.00, 21.00
12-14 жніўня – у 21.00
15 жніўня – у 18.00
Цана білета – 40 000 рублёў

Фантастычны экшн "**Ціхаакіянскі рубеж**" 3D (ЗША, 2013, 2 серыі, да 12 гадоў прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
9 жніўня – у 18.00
10, 11 жніўня – у 15.00
13 жніўня – у 18.00
14 жніўня – у 16.00
15 жніўня – у 21.00
Цана білета – 40 000-45 000 рублёў

Анімацыйныя прыгоды "**Турба**" (ЗША, 2013)
9 жніўня – у 16.00
10, 11 жніўня – у 13.00
12 жніўня – у 19.00
14 жніўня – у 19.00
15 жніўня – у 16.00
Цана білета – 22 000-25 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Драма "**Забава**" (Расія)
9-11 жніўня – у 19.30
Цана білета – 25 000 рублёў

Анімацыя "**Гара самацветаў 7**" (Расія)
9 жніўня – у 17.30
10, 11 жніўня – у 15.30, 17.30
Цана білета – 15 000 рублёў

Баявік "**Напралом**" (Францыя)
9-12 жніўня – у 21.30
13-15 жніўня – у 19.30, 21.30
Цана білета – 25 000 рублёў

Анімацыя "**Прыгоды Гекльберы Фіна**" (Германія)
13-15 жніўня – у 17.30
Цана білета – 15 000 рублёў

Тэл. для даведак: **8(0176) 77-15-92, 77-06-30.**

**ГАРАСКОП (9-15 ЖНІЎНЯ)**


**Авен.** Ад вашага праніклівага і мудрага погляду нічога не ўтоіцца. Вы будзеце здольныя разабрацца ў любых справах і нават дапамагчы вывесці падманшчыкаў на чыстую ваду.


**Цялец.** З'явяцца новыя ідэі ў дачыненні да няскончаных спраў. Скарыстайцеся імі. Бо, магчыма, вы прыдумалі нешта асаблівае. Вынік будзе пазітыўным, будзьце ўпэўненыя.


**Блізняты.** Дапамажыце дзецям разабрацца з праблемамі, але цалкам не ўзвальвайце іх праблемы на сябе.


**Рак.** Да вас у госці загляне ўдача. Аднак не пераацаніце свае сілы і магчымасці, асабліва фінансавыя – той, хто спрабуе задаволіць усе свае жаданні, рызыкуе застацца на мялі.


**Леў.** Работа будзе стамляць, адцягваць ад радасці зносін з любімымі людзьмі, але гэта не вечна, напярэдзе перыяд адпачынку і ціхамірнасці.


**Дзева.** Вы часткова страціце сваю жыццярадасную ўраўнаважанасць, часцей будзеце панурымі, сумнымі. Шукайце крыніцу пазітыву, інакш вы самі сабе ўсё сапсуеце.


**Шалі.** Не чапляйцеся за мінулае, адпусціце. Новае знаёмства дазволіць паглядзець інакш на жыццё і свет вакол вас.


**Скарпіён.** Памятайце, што агрэсія, раздражнёнасць і грубасць могуць дрэнна адбіцца на псіхіцы. Калі справіцца з негатывам цяжка, пастарайцеся накіраваць энергію ў карыснае рэчышча – наладзьце генеральную ўборку, выкіньце старыя рэчы, перастаўце мэблю.


**Стралец.** Больш упэўненасці ў сабе – і прадуманы да дробязяў "экспромт" будзе асуджаны на… безагаворачную ўдачу.


**Казярог.** Вашы планы, звязаныя з мужчынамі, падвергнуцца ўздзеянню нестабільных ці непрадказальных падзей, але ў выніку прынясуць удачу.


**Вадалей.** Адбудзецца падзея, якая памножыць ваша шчасце. Вы будзеце акружаныя ўвагай многіх людзей, для іх не пройдуць незаўважанымі вашы намаганні апошніх месяцаў па самаўдасканаленні.


**Рыбы.** Ці не ўвесь перыяд вы будзеце ў адзіноце, але нічога страшнага. Вы зразумееце, што самы дарагі чалавек адносіцца да вас так, што сур'ёзней і быць не можа.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

**Камент-эксперт** erh.by

Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420,** на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

# Рэгіянальная газета

## НАДВОР'Е

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +21 / +31 | | +21 / +29 | | +19 / +21 | | +14 / +23 | |
| | 740 | ↑ 8 | 740 | ↖ 4 | 742 | → 1 | 742 | → 1 |
| Вільня | +22 / +29 | | +17 / +27 | | +15 / +23 | | +14 / +23 | |
| | 749 | → 1 | 749 | → 1 | 748 | ↘ 3 | 749 | ↗ 3 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, заход па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 5.41
Захад 20.54
Даўжыня дня 15.13

Усход 8.40
Захад 21.17
Квадра 1

**10 жніўня, субота**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Віцебск | +22 / +26 | 747 | ↗ 2 |
| Гродна | +19 / +20 | 749 | ↓ 3 |
| Мінск | +21 / +29 | 740 | ↖ 4 |
| Магілёў | +20 / +27 | 746 | ↗ 2 |
| Брэст | +22 / +20 | 748 | ↓ 5 |
| Гомель | +20 / +29 | 752 | ↑ 2 |

## ПРЫКМЕТЫ

- У беларусаў-каталікоў Лаўрын (10 жніўня). "На Лаўрына спяшай да млына".
- Калінаў дзень (11 жніўн). Сеялі жыта, плялі вянкі.
- 14 жніўня. Першы Спас, мядовы.

## Чытайце праз тыдзень:

- **Вядомы краязнаўца і педагог з Мядзельшчыны Іван Драўніцкі раскажа пра цікавыя вандроўкі і адметныя адкрыцці, падзеліцца тым, як збіраць паданні.**

## УСМІХНІЦЕСЯ

Прыходзіць жанчына ў аптэку і пытаецца:

– Ці ёсць у вас мазь гідрапартызанавая?



**ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ**

## Што самае незвычайнае ў сваім жыцці вы елі?

**Канстанцін Кухарэнка, студэнт:**

– Гэта былі крэветкі. Я іх сам прыгатаваў. Ды так дрэнна ў мяне атрымалася, што гэта было самае незвычайнае, што я еў у сваім жыцці.

**Карына Арловіч, студэнтка:**

– Я ела сушы ўласнага прыгатавання. А нядаўна я пакаштавала іх на Украіне. І скажу, што сушы ў рэстаране мне спадабаліся больш, бо там вышэйшы ўзровень прыгатавання.

**Юры Абрампальскі, будаўнік:**

– Я еў японскую ядавітую рыбу. Пакаштаваў такую незвычайную страву на працы ў Маскоўскай вобласці.

**Юры Бачурын, прадпрымальнік:**

– Я нават не ведаю, як яно называецца. Нешта бледназялёнага колеру, з пухіркамі, памерам з яблык. Такі працёўны фрукт, салодка-горкага смаку. Каштаваў яго, калі быў на адпачынку ў Крыме.

**Ларыса Мацукатава, спецыяліст камісіі па справах непаўналетніх дзяцей:**

– Ніякіх экзатычных страў я не рызыкую есці. Я гатую узбекскія стравы: манты, самсы. Манты – гэта як пельмені, толькі вялікія і гатуюцца на пары. А самсы – слоеная цеста, дзе вельмі шмат цыбулі, нацёртай на тарцы, разам з мясам.

**Жанна Якімовіч, настаўніца пачатковых класаў:**

– Калі была на адпачынку на поўдні, ела мідыі. Да таго ж вельмі спадабалася пахлава – яна саладкаватая і нагадвае нашы хрушчы, толькі з мёдам і з арэхамі. Дзеці яе вельмі палюбілі.

**Віялета Ляшковіч, студэнтка:**

– У Італіі я каштавала сушаных конікаў. Яны з рознымі прысмакамі і нагадваюць чыпсы. Пашчасціла пакаштаваць і сушаную змяю, на смак яна падобная да курыцы.

**Настасся РОЎДА.**
**Вольга ЮРКЕВІЧ.**


Рэгіянальная газета. Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6100 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 32 (954) 9.08.2013.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 701. Падпісана ў друк у 10.00 8.08.2013.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.